Ніва
ТЫДНЁВІК ГПБГКТ
№ 48 (874) ГОД XVII БЕЛАСТОК 26 ЛІСТАПАДА 1972 г. ЦАНА 60 гр.

ГП БГКТ у сёлетнім плане сваіх мерапрыемстваў вялікае месца прысвяціла святкаванню 90-ай гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Купалаўскія ўрачыстасці ў асноўным ужо адбыліся, пачаліся коласаўскія. Аб адной з іх пішам сёння на стар. 3 («Багаты коласаўскі вечар»). На здымку: удзельніцы гэтага вечара, Беларуская эстрада гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку ў мантажы «Вечар з вершам і песняй». Злева направа: Зіна Казбярук, Вера Кандрацюк, Валя Рубчэўская, Геня Грыгарук, Марыся Пракапюк і Геня Бручко.



# ВАЧЫМА ПРАКУРОРА

Мы сядзелі ў мяккіх крэслах і вялі сяброўскую гутарку. Ён — пракурор і я — журналіст.

Нашу ўвагу заняў на момант дыктар тэлевізійнай перадачы, які падаваў навіны дня. Ён прачытаў інфармацыю аб супольным пасяджэнні Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ПАРП і Прэзідыума ўрада нашай краіны. Нас зацікавіла высокая і станоўчая ацэнка гаспадарчых дасягненняў, якія дазволілі ўтрымаць і прадоўжыць стабілізацыю цэн на харчовыя прадукты, а адначасова вызначыць новыя, павышаныя заданні для нацыянальнай гаспадаркі на 1973 год.

— Што ты мяркуеш аб гэтым? — запытаў я свайго сябра пракурора.

— Вядома, толькі цешыцца трэба, што партыя, што наш урад шчыра апавяшчаюць народу свае пастановы.

— Яны таксама патрабуюць ад нас яшчэ лепшай, больш прадукцыйнай працы, — заўважыў я.

— Так, — згадзіўся пракурор, — гэта ж аснова дасягненняў. Толькі калі гэты заклік перакласці на мову штодзённасці, у выпадку маёй прафесіі абазначае гэта яшчэ больш заўзятую і рашучую барацьбу з усякага роду злачынствам, са спробамі жыць на чужы кошт.

На экране тэлевізара паявілася фатаграфія нейкага маладога мужчыны і зараз жа мы даведаліся, што яго шукае міліцыя.

— Вось бачыш, — сказаў пракурор, — гэта адзін з іх.

— А ў нас на Беласточчыне ці многа такіх «блакітных птушак»? — пацікавіўся я.

— Хапае. Асабліва па-даўнейшаму б'юцца юрлівыя хлопцы ў час розных фэстываў, вяселляў, хрысцін і іншых сямейных гульняў. На працягу апошніх трох год колькасць іх павялічылася больш як на палавіну. З бойкамі сябруюць па-суседску два іншыя віды злачынстваў: Няшчасныя выпадкі на дарогах і знасілаванне маладых дзяўчын.

— А прычыны?

— Вельмі розныя, аднак часта паўтараецца п'янства, асабліва ў вёсцы.

— Ты ўспомніў пра знасілаванне жанчын...

— Так, на жаль, і тут мы аднатавалі сумны прыбытак, бо колькасць знасілаванняў на працягу мінулых трох год павялічылася амаль на 50 працэнтаў. Здараліся даволі часта знасілаванні груповыя. А колькі такіх выпадкаў скрывае дзявочая сарамлівасць? Адно табе магу сказаць, што пракуратура ў гэтых выпадках з поўнай суровасцю прымяняе правы.

— Тут вы маеце за сабой поўную падтрымку грамадскай апініі.

— Гэта для нас рэч вельмі важная. Хацелася б, каб таксама грамадзяне дапамагалі нам змагацца з алкагалізмам. Вось у мінулым годзе больш чым 1/3 частка злачынцаў ішло на праступную дзейнасць па-п'янаму. У некаторых паветах, між іншым, у Бельскім і Гайнаўскім было праведзена комплекснае даследаванне алкагалізму. Яно паказала залежнасць злачынстваў і п'янства. У Гайнаўскім павеце міліцыя выкрыла ў гэтым годзе аж 43 самагоншчыкаў. У Бельску за распіванне малалетніх тамашняя пракуратура накіравала справу ў суд.

Працяг на стар. 4

# Дапаможам дзецям

Нашым чытачам няма патрэбы шмат тлумачыць таго, што большасць вясковых дзяцей адмервае дзень у дзень па добрых некалькі кіламетраў у школу і назад. Не так страшна, калі адлегласць да школы толькі 2—3 км, але здараецца і па 5—6.

Няма ў гэтым нічыёй віны. У кожнай малой вёсачцы школы быць не можа. Сучасная школа павінна даць кожнаму дзіцяці як найбольш грунтоўных ведаў, павінна мець добра абсталяваныя кабінеты, майстэрні. Вясковае дзіця павінна атрымаць такую ж адукацыю, як гарадское.

Таму трэба лічыцца з тым, што і ў далейшым будзе наглядацца працэс цэнтралізацыі школ, спалучэння нават некалькіх малых школ у вялікія і добрыя.

У краіне існуе ўжо эксперыментальна 12 гмінных школ. Гэта добра абсталяваныя пляцоўкі, з поўным камплектам дзяцей. Дзяцей прывозяць сюды з усёй ваколіцы, тут яны вучацца, займаюцца ў гуртках, выконваюць свае дамашнія заданні, атрымліваюць абед, а вечарам прыязджаюць дадому. Такія эксперыментальныя школы ўжо сёння маюць шмат прыхільнікаў, і ўсё гавораць аб тым, што іменна такія школы стануць паўсюднай формай падставовага навучання.

Але дзяцей у школу трэба завезці. Каб вырашыць толькі адну гэту справу па ўсёй краіне, патрэбны велізарныя фінансавыя сродкі. Дзяржава, напэўна, знойдзе на гэта грошы, толькі трэба яшчэ ўсё добра праверыць, пералічыць, па-гаспадарску арганізаваць. А на гэта спатрэбіцца некалькі год.

Пакуль што нашы дзеці ходзяць у школу. Многія бацькі купілі дзецям веласіпеды. Добра было б, каб дзіця магло яшчэ зімой карыстацца лыжамі. Веласіпедныя ці лыжныя прагулкі па некалькі кіламетраў два разы ў дзень вельмі патрэбны для здароўя дзіцяці, для яго добрага фізічнага развіцця. Няхай жа ж кожны бацька, купляючы дзіцяці веласіпед і лыжы, ператворыць абавязак дзіцяці хадзіць у школу ў прыемную прагулку.

Сёння ж кожную раніцу па палявых і шасейных дарогах тупаюць з розных бакоў да сваёй школы фігуркі з сумкамі за плячыма. Па шашы іх мінаюць машыны, вазы. Калі надвор'е неспрыяючае, дождж ці віхура, не адзін шафёр паспачувае малому, затрымаецца, адчыніць дзверкі машыны ды весела скажа:

— Садзіся, студэнт, падвязу!

І якая ж гэта прыемная нечаканасць для малога: і машынай праехаўся, і ў школе першы.

З думкай аб дзецях арганізуецца ў нас штогод конкурс пад назвай «Шафёр, памажы дзіцяці». Заключаецца ён у тым, каб шафёры часцей падвозілі дзяцей у школу, калі толькі ім гэта па дарозе. А дзіця будзе дзякаваць за гэта, уручаючы адпаведную картачку з надпісам «Дзякую табе, шафёр!» і з пячаткаю школы. Падрыхтоўкай такіх картачак зоймуцца самі дзеці пад кіраўніцтвам настаўнікаў. А шафёры, сабраўшы ўсе такія карточкі разам, вясною, перад падсумаваннем конкурсу, перашлюць іх у аддзел камунікацыі павятовай рады нарадовай. Арганізатары конкурсу рыхтуюць для ўдзельнікаў шэраг узнагарод, якія будуць уручаны пераможцам конкурсу пад канец навучальнага года.

(Працяг на стар. 4)

У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ

# Янка Салавянюк

Янка Салавянюк нарадзіўся 10 лютага 1945 года ў вёсцы Навасады Гайнаўскага павету. Пачатковую школу закончыў у роднай вёсцы, а пасля вучыўся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Пасля матуры вучыў дзяцей у Курашаве і Сацах.

Яшчэ ў ліцэі Янка Салавянюк часта задумваўся над тым, чаму найлепш было б прысвяціць свае маладыя гады. Янка меў літаратурныя схільнасці. Многа чытаў, а нават рабіў спробы ў малых формах літаратурнага жанру. Успамінаючы тыя гады, Янка прапануе маёй увазе свой літаратурны нарыс, які быў апублікаваны ў кнізе пад загалоўкам «Аванс пакалення». Змест нарыса «Іду праз вёску свішчучы» напісаны сапраўды цікава і з немалым талентам. Аднак ужо ў II класе сярэдняй школы намеры Янкі адмяніліся. Яго ўражлівую душу паглынала мастацтва. Да гэтага заахвоціў яго настаўнік малюнку Анатоль Корзун, які і цяпер нязменна працуе ў тым жа самым ліцэі. З'яўляецца ён вядомым гайнаўскім мастаком.

Пачынаючы вучыць вясковых дзяцей, Янка Салавянюк усяцэла аддаецца жывапісу. Чытае кнігі на тэму мастацтва, паглыбляе свае веды аб выдатных жывапісцах і іх карцінах. Пачынае рабіць эскізы. Выходзіць надрэнна і гэта заахвочвае да далейшай працы, а адначасова непакоіць, бо Янка ўжо ведае, што мастацтва будзе для яго самым дарагім усё жыццё.

Для гэтага трэба было яшчэ доўга вучыцца. Янка вырашыў паступіць на мастацка-педагагічнае аддзяленне універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні. Навуку ва універсітэце заканчвае ў 1969 годзе. Разам са сваімі калегамі-мастакамі ездзіць на мастацкія пленеры ў Шчэцін, Аполе, Гданьск і Козле. У некаторых з гэтых гарадоў яго калегі — мастакі пачынаюць працаваць прафесіянальна і застаюцца, заводзяць сем'і.

Янка таксама шукае дарогі ў сталае жыццё, пачынае творчую працу ў далёкіх ад роднай Беласточчыны гарадах, у якіх былі добрыя ўмовы для працы. Часамі толькі нейкі тужлівы боль ды сум па роднай вёсцы кранаў чуллівую душу маладога мастака. Часцінка яго душы засталася недзе ля Белавежскай пушчы, там, дзе ў маленстве ставіў першыя самастойныя крокі, дзе быў упершыню закаханы ў адну вясковую прыгажуню...

Туга за роднымі далямі не дазволіла Янку заставацца даўжэй за межамі Беласточчыны. Пакідае ён працу ў сваёй майстэрні ў Козлі. Вяртаецца на Гайнаўшчыну. Пачынае працаваць у павятовай культурна-асветнай парадні ў Гайнаўцы, а пасля ў адной з гайнаўскіх школ. І вось ён зноў сярод сваіх бы-

(Працяг на стар. 4)



*Янка Салавянюк.*



*Плёскаўскі дзявочы квартэт. Злева направа: Зося Балла, Ірка Паўлючук, Ліда Максімюк, Оля Амельянчук і іхні акампаніятар Мірэк Іванюк.*

НА НІВЕ БГКТ

# Багаты коласаўскі вечар

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы арганізавала ўрачысты вечар, прысвечаны 90-ай гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Такая вялікая падзея ў жыцці беларускага народа не магла прайсці без эха і ў жыцці нашага таварыства. Як вядома, Якуб Колас побач з Янкам Купалам быў стваральнікам беларускай літаратуры, больш таго, былі яны стваральнікамі беларускай літаратурнай мовы.

Вечар адбыўся ў будынку ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай у Беластоку. Са змястоўным дакладам аб жыцці і творчасці паэта выступіў доктар Аляксандр Баршчэўскі з Варшаўскага універсітэта. Хаця большасці сабраўшыхся былі ўжо вядомы факты з жыцця і творчасці Якуба Коласа, усё ж дакладчык змог выклікаць у іх велізарную цікавасць. Добры знаўца беларускай літаратуры, дасканала апераючы беларускай мовай, расказаў ён у простым, апавядальным стылі аб рэдкіх фактах і здарэннях з жыцця пісьменніка, аб яго нялёгкім творчым шляху і творчых перамогах.

Другую частку коласаўскага багатага вечара запоўніла мастацкая праграма. Убачылі мы на гэты раз зусім новыя твары выканаўцаў вершаваных твораў і песень. У праграму ўвайшоў добры мантаж, падрыхтаваны па вершах Якуба Коласа, а выкананы беларускай эстрадай гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, і дзявочы квартэт з вёскі Плёскі ў Бельскім павеце.

Вялікі зал быў набіты слухачамі. Стаялі ў калідорах і ва ўсіх шчылінах, дзе толькі было якое месца. Аглянулася я назад: кругом маладыя твары і жывыя вочы. Адна моладзь! Рэагавалі жыва і прыхільна. Дасканала разумелі вершы і бурлівымі воплескамі і бісамі прымалі песні з Плёсак.

Беларуская эстрада гарадскога аддзела БГКТ выступіла ўпершыню і захапіла нас сваім дэбютам. Шэсць дзяўчат з Беластока падрыхтавалі манументальную і нялёгкую літаратурную праграму і прадставілі яе беспамылкова. Мантаж апрацавала і рэжысёрам была Зося Стаськевіч — кіраўнік беларускага клуба ў Беластоку. Была ў гэтай праграме дасканалая беларуская мова і вымова, добра вывучаныя тэксты, цікавая інтэрпрэтацыя тэкстаў — усё на высокім узроўні. Такіх добрых дэкламацый ужо даўно не чула сцэна беларускага клуба. Мантаж ішоў у цікай вячэрняй гадзіне — пагашанае святло ў зале, а на сцэне гарэлі свечкі ў цэпэльёўскіх падсвечніках. Цені слізгаліся па доўгіх суконках здольнай беластоцкай шасцёркі. Уражанне вялікае і ўзрушаючае!

Другі дэбютант унёс на сцэну песню. Унёс даволі нясмела, як бы спуджаны запоўненым залам і папярэднім калектывам. Але ўжо на трэцяй песні адчулася, што чатыры плёскаўскія дзяўчыны і іхні маладзенькі акампаніятар-гарманіст узляцелі на крылах сваёй песні і перасталі хвалявацца. Галасы звінелі звонка па-народнаму, на тварах паявілася натуральная ўсмешка і... зніклі ўсялякія граніцы сцэны з публікай. Тым больш, што выбрэдныя беластоцкія слухачы прынялі дзявочыя песні сардэчна і бурліва. Седзячыя побач не стрымліваліся: «Добра спяваюць», — паўтаралі. Атмасфера нейкага энтузіязму і ўзрушэння ўзрастала з кожнай песняй. Зала пачала падспеўваць за плёскаўскім квартэтам больш знаёмыя мелодыі. Мо з пятнаццаць песень заспявалі нам плёскаўскія дзяўчаты — рускія і беларускія, а ўсе гэтыя песні з тых, якія лёгка прымае вуха, якія мы заўсёды ахвотна слухаем з-за іх меладыйнасці і прыгажосці.

Так ва ўзнёслай і свабоднай атмасферы закончыўся гэты коласаўскі ўдалы вечар. І запомніліся нам твары беластоцкіх дзяўчат з іх мастацкімі дэкламацыямі і плёскаўскіх дзяўчат з іх аўтэнтычнымі народнымі спевамі. Адны і другія здалі на пяцёрку свой экзамен. І сёння аб'яўляем гэты факт і ўводзім і адных, і другіх у сан прызнаных мастацкіх калектываў Беларускага таварыства. Наша жаданне бачыць іх заўсёды на выбранай дарозе — яшчэ шырэйшай працуючымі з жывым словам і звонкай песняй.

*Вера Лейчук*

*Фота Цаф Сянько*



*Агульны від залы на коласаўскім вечары.*

## Узнагароды для актывістаў БГКТ

Перадавым старшыням гурткоў БГКТ, заслужаным культурным дзеячам Галоўнае праўленне БГКТ прызнала рэчавыя ўзнагароды. Уручаны яны былі ў час нарады старшынь гурткоў у кастрычніку ў Беластоку. Узнагароды атрымалі 24 асобы.

На здымку: узнагароды прымаюць (злева) Ірэна Макарэвіч з Крапіўна (Дуброўскі павет), Анна Амбражэй з Беластока, Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк — абедзве з Гарадка. Уручае намеснік старшыні ГП БГКТ галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі.

УЗНАГАРОДЖАНЫЯ СТАРШЫНІ ГУРТКОЎ:

Міхась Гацута з Навакорніна, Аляксандр Крутэль з Гайнаўкі, Аляксандр Самойлік з Плянты, Мікалай Гонта з Міклашоў, Яўгені Аніско з Аўгустова, Вера Валкавыцкая з Орлі, Мікалай Куптэль з Літвінавіч, Янка Манцюк з Мікуліч, Галіна Сакалоўская з Сухініч, Мікалай Яцэвіч з Гаркавіч, Ірэна Макарэвіч з Крапіўна, Мікалай Хлябіч з Рыбакоў, Антон Саковіч з Міхалова.

УЗНАГАРОДЖАНЫЯ КУЛЬТУРНЫЯ ДЗЕЯЧЫ, пераважна кіраўнікі вакальных і тэатральных гурткоў, клубаў:

Анна Амбражэй з Беластока, Уладзімір Раеўскі з Бельска, Ніна Мушынская з Гарадка, Гелена Тапалянская з Трасцянкі, Анна Красько з Гданьска, Валянціна Мароз з Паўлаў, Раіса Чыжык з Літвінавіч, Аляксандр Рафаловіч з Саколкі, Пётр Германюк з Дубровы, Васіль Антыпюк з Бельска.

Усіх узнагароджаных віншуем і жадаем яшчэ лепшай працы на ніве БГКТ.

(вл)



## ВЯЛІКІ КОНКУРС




РАСІЙСКАЯ САВЕЦКАЯ ФЕДЭРАТЫЎНАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Роўная па свайму палажэнню і правах з іншымі чатырнаццацю саюзнымі рэспублікамі, Расійская Федэрацыя па велічыні тэрыторыі, ліку насельніцтва і аб'ёму вытворчасці з'яўляецца самай вялікай у СССР.

РСФСР была ўтворана 7 лістапада 1917 г. Увайшла ў Саюз ССР 30 снежня 1922 г. У складзе РСФСР 16 аўтаномных рэспублік, 5 аўтаномных вобласцей і 10 нацыянальных акругаў.

Тэрыторыя рэспублікі — 17 075,4 тысяч кв. км, працягваецца з усходу на захад больш чым на 9 тысяч км, з поўначы на поўдзень — на 4 тысячы км. Сонца праходзіць гэтую адлегласць за 11 гадзін, сучасны пасажырскі самалёт ляціць з Петрапаўлаўска на Камчатцы ў Маскву 12 гадзін, а скоры поезд з Уладзівастока ў сталіцу рэспублікі — горад Маскву — ідзе сем сутак.

У РСФСР жыве 131,4 мільёна насельніцтва. Гэту вялікую і згодную сям'ю складае звыш 100 нацыянальнасцей. Больш за 40 нацыянальных меншасцей у гады Савецкай улады набылі сваю пісьменнасць і атрымалі магчымасць развіваць народную культуру.

Тэрыторыя РСФСР вельмі разнастайная сваімі прыроднымі ўмовамі і знаходзіцца ў розных кліматычных паясах — ад арктычнага на адлеглых астравах Ледавітага акіяна да субтрапічнага на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа. На Далёкай Поўначы глебу скоўвае вечная мерзлата, а на поўдні — зімы амаль не бывае. Самая высокая гара ў рэспубліцы — Эльбрус (5633 м) знаходзіцца на Вялікім Каўказе. У РСФСР звыш 200 тысяч азёраў і велізарная сетка рэкаў, якія належаць да вадазбораў трох акіянаў: Ледавітага, Ціхага і Атлантычнага.

Расійская СФСР багата карыснымі выкапнямі, якія адкрыты і даследаваны галоўным чынам у гады Савецкай улады. У рэспубліцы знаходзіцца каля 70 прац. запасаў вугалю СССР, галоўныя яго месцазнаходжанні: Кузнецкі басейн, усходняе крыло Данецкага басейна, Падмаскоўскі, Пячорскі, вугальныя радовішчы Уралу, Усходняй Сібіры і Далёкага Усходу. Вялікія запасы нафты знаходзяцца ў Волга-Уральскім раёне, Цюменскай вобласці, на Паўночным Каўказе, у Калінінградскай вобласці і на Далёкім Усходзе. У РСФСР ёсць 92 прац. усіх запасаў торфу СССР. Гаручыя сланцы ёсць на Паволжы і ў заходняй частцы Ленінградскай вобласці. Расійская Федэрацыя вельмі багата рудамі. Жалезная руда знаходзіцца на Урале, у Паўночна-Усходняй, Усходняй і Заходняй Сібіры, Курскай магнітнай анамаліі. Марганцавая руда ёсць на Урале і Заходняй Сібіры. Рудамі каляровых і рэдкіх металаў багаты Урал і Усходняя Сібір. Вялікія таксама запа-

(Працяг на стар. 5)



## ТАК БЫВАЕ...

# Любоў усім возрастам пакорна

У 10 гадзін раніцы ў прэзідыуме ГРН у Храбалах (Бельскі павет) панавала ажыўленне. У бюро цывільнага стану чакалі прыезду нязвыклых маладажонаў, для якіх хацелі тут стварыць асабліва ўрачысты настрой падчас рэгістрацыі шлюбу. Маладажонамі былі Юрый Галубоўкі з Рыбалаў, якому зараз 77 гадоў, і Ганна Тарасюк (1910 год нараджэння) з Плёсак. Легкавая машына з кветкамі падвезла іх да прэзідыума ГРН. Сардэчна прывітала іх начальнік ад шлюбаў Анна Мінкевіч, якая пасля ўладжання некаторых фармальнасцей уключыла пласцінку з урачыстай мелодыяй і запрасіла маладажонаў у добра абсталяванае спецыяльнае памяшканне, дзе ў прысутнасці ўсіх працаўнікоў ГРН і некаторых сваякоў адбыўся шлюб. Анна Мінкевіч вельмі ўрачыста, вельмі прыгожа дае шлюб. Яна да гэтай цырымоніі мае талент. Пасля злажэння подпісаў маладажонаў і сведкаў ды абмену пярсцёнкамі, павіншавалі і ўручылі кветкі Ганне і Юрыю Галубоўскім ад імя радных ГРН — радныя Ніна Гулько і Мікалай Раманюк, ад імя моладзі з Плёсак — Бася Бжастовіч і Валя Васілюк, а Анна Мінкевіч прачытала прысланыя ад добрых сяброў віншавальныя тэлеграмы, пасля чаго прыпаднесла ім на тацы па чарачцы віна.

Не было толькі ані тэлеграмаў, ані віншавальных лістаў ад чатырох дочак Юрыя Галубоўскага. Яны вельмі незадаволены жаніцьбай бацькі. Незадаволены гэтым таксама дачка і сын Ганны Тарасюк (цяпер Галубоўскай). Ніхто з іх не прымаў удзелу ў шлюбе гэтых пажылых людзей.

*

Так ужо ёсць на гэтым белым свеце, што дарослыя дзеці не любяць, калі іх старыя бацькі жэняцца. Але жэніцца цяпер у пажылым веку значная колькасць людзей, іх з кожным годам усё больш. Людзі ўжо не жывуць у цяжкіх матэрыяльных умовах. Наогул жывуць заможна. Гэта дае магчымасць старэйшым людзям быць эканамічна незалежнымі ад дзяцей. Маючы ўласныя крыніцы даходаў (вельмі часта рэнту ці пенсію), такія пажылыя людзі хочуць ізноў пажаніцца (або выйсці замуж) з асобаю, якая знаходзіцца ў падобнай жыццёвай сітуацыі. Навошта ж ім браць на сябе абавязак хатняй дапамогі ў сваіх дарослых жанатых дзяцей, у замен нічога не атрымоўваючы або атрымоўваючы вельмі мала і будучы ад іх ва ўсім залежным?..

*Тэкст і фота М. Хмялеўскі*

Пачатак на стар. 1

# ВАЧЫМА ПРАКУРОРА

— Але ці толькі караць?

— Рацыя, лепш не дапускаць да злачынства. Дзеля гэтага будзе пабудавана на Беласточчыне бальніца для прымусовага лячэння алкаголікаў, у Бельску, Гайнаўцы і ў дзвюх іншых мясцовасцях ваяводства распачнуць ужо нядоўга працу раённыя выцверазілаўкі.

— А гаспадарчыя злачынствы?

— Тых, хто спакушаецца на дзяржаўную або грамадскую маёмасць, сустракаем мы ўжо менш. Затое здараюцца сапраўдныя каралі гэтай справы, якія намотваюць цэлую злачынскую сетку. Вось на будаўляных прадпрыемствах ваяводства выявілі мы аж 50 асоб, якія падмацоўвалі свой бюджэт за кошт дзяржавы.

— Дорага прыдзецца ім за гэта заплаціць?

— Тых, хто свядома ідзе на злачынную дзейнасць, мы будзем караць з поўнай суровасцю права. Аднак здараецца і так, што чалавек зблудзіць, нейкі д'ябал яго спакусіць. У такіх выпадках мы прымяняем выхаваўчыя сродкі. Аддаем злачынцу пад паруку рабочага калектыву або нейкай грамадскай арганізацыі, паведамляем прадпрыемству, дзе ён працуе, прымушаем да працы на карысць пакрыўджанага, даем адзін—два гады на выпрабаванне яго паводзін. А ўсё гэта дзеля таго, каб менш караць, а больш здольных рук памнажала вартасць нацыянальнай гаспадаркі.

*В. Рудчык*

Пачатак на стар. 1

# Янка Салавянюк

лых настаўнікаў, сярод даўніх калег і аднавяскоўцаў, сярод блізкіх яму людзей. Цягне яго адвечная пушча і ваколіца. Як шмат тут змянілася! Ды і тыя прылясныя ціхія вёскі змянілі свой ранейшы выгляд. Добра што хаця няма таго празмернага гарадскога поспеху, што ёсць дзе адпачыць, прыгадаць мінулае. У такой задумёнасці паўстае ў думках не адна з Янкавых карцін. Рука тады міжвольна хапае паперу і нараджаецца непаўторны эскіз з увекавечаным ураженнем адной хвіліны.

Янка Салавянюк не толькі вучыць мастацтву школьнікаў, але і часта выступае з дакладамі на тэмы сучаснага мастацтва ў вясковых клубах і на гарадскіх прадпрыемствах. Неаднакратна прыходзіць з дапамогай пры арганізаванні рэгіянальных музеяў, пры падрыхтоўцы дэкарацыяў і г.д. Яго мастацкія карціны ўдзельнічаюць у шматлікіх выстаўках нават у далёкіх гарадах і за межамі нашай краіны. І так глядзелі іх жыхары Аполя, Гданьска, Гдыні, Катовіц, Варшавы, Аўгустова,. Беластока, а таксама Коўна (СССР) і іншых замежных гарадоў.

Янка Салавянюк з'яўляецца членам Саюза польскіх мастакоў.

Апошнюю выстаўку сваіх карцін меў у маі г.г. у Клубе міжнароднай прэсы і кніжкі ў Беластоку. На выстаўцы была прадстаўлена 21 карціна. Сярод іх карціны пад загалоўкамі: «Вястун знішчэння», «Адчужэнне», «Туга», «Думка», «Дзе зло?», «Дзе дабро?» і іншыя. Ужо загалоўкі даволі канкрэтна акрэсліваюць творчасць мастака. Яна падпарадкавана эстэтычна-філасофскім разважанням. Гэта пераход ад штодзённасці ў казачнаколерны, інтымны «уласны свет» мараў, тугі, канцэнтрацыі, у свет унутранага жыцця, уласцівага толькі чалавеку. У сваіх карцінах мастак пры дапамозе сімвалаў-знакаў перанёс сэнс філасафічнай думкі і паэтычнае ўражанне.

— Няма карціны закончанай, — паясняе тайны жывапісу мастак. — Да карціны заўсёды можна нешта дадаць і нешта ўбраць з яе, выбраць больш трапны колер, лінію. Што зараз маю на палеце? — Эскізы. Я закаханы ў пушчу.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*

# Дапаможам дзецям

(Працяг са стар. 1)

Сёлета гэтым конкурсам і кіраваннем акцыі «Шафёр, памажы дзіцяці» займаецца гарцэрства, а ў штаб уваходзяць прадстаўнікі куратарыі, міліцыі, аддзела камунікацыі, Прэзідыума ВРН, ПЗУ, ПЗМот-у, ТПД, СОП і іншых устаноў. Усе гэтыя ўстановы звяртаюцца да ўсіх шафёраў з просьбай памагчы дзіцяці. Асаблівую толькі ўвагу трэба звярнуць на бяспечны перавоз дзяцей. Калі ўжо шафёр бярэ іх у сваю машыну, дык абавязкова трэба праверыць, ці добра зачынены дзверкі, ці дзіця ў поўнай бяспецы. З другога боку — школа павінна звярнуць увагу дзяцей на тое, як трэба весці сябе на шашы, як хадзіць, як затрымоўваць машыну. Гэтымі справамі павінна заняцца гарцэрская арганізацыя, але з удзелам усіх вучняў. Затрымліваць можна ўсе машыны. Шафёры самі могуць вырашаць, ці іх машынай можна падвозіць дзяцей. Абсалютна нельга ездзіць ПКС-ам без білетаў. Тут не памогуць карткі з падзякамі. ПКС існуе толькі для пасажыраў з білетамі.

Многія шафёры ездзяць штодзень той самай дарогай. І калі яны становяцца сапраўднымі сябрамі школьнікаў, тыя іх добра ведаюць нават па імені, чакаюць іх кожную раніцу і рыхтуюць найпрыгажэйшыя картачкі — з малюнкамі і падзякай.

У конкурсе могуць таксама ўдзельнічаць людзі, якія ездзяць коннымі вазамі. Кожны від транспарту добры, абы толькі дзеці маглі пад'ехаць.

Заклікаем усіх шафёраў і вазакоў дапамагаць дзецям у іх штодзённых вандроўках, асабліва не абмінаць іх, калі ідзе дождж, снег, ці завывае віхура. Многія з шафёраў самі бацькі. Няхай жа ж і фігурка школьніка на шашы знойдзе трошкі цеплыні ў нашых сэрцах.

*Яніна Чэрнякевіч*

# БУДЗЕ НОВАЯ ШКОЛА

У цяжкіх умовах вучацца школьнікі з Шымкаў Беластоцкага павету. Займаюцца яны ў класах, якія знаходзяцца ў некалькіх хатах мясцовых сялян. Школьнай моладзі збіраецца тут многа, больш 200 асоб. У шымкаўскую васьмігодку ходзяць дзеці з Цісоўкі, Будаў, Навасадаў і Лявонавічаў.

Зараз пачалася будова новай двухпавярховай школы. Будзе гэта вялікі будынак даўжынёю ў 53 метры і шырынёю ў 13 метраў. Выкарыстоўвацца будуць часткова гатовыя будаўнічыя элементы. Гэта будзе спрыяць хутчэйшаму тэмпу пабудовы школы. (ця)

## VII З'ЕЗД БГКТ

# Неабходна блізкае супрацоўніцтва

(ВЫСТУПЛЕННЕ ДР ЭЛЬЖБЕТЫ СМУЛКОВАЙ — КІРАЎНІКА КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА).

Ад імя навуковых працаўнікоў і студэнтаў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прывітанні і пажаданні плённай працы ўдзельнікам VII з'езду БГКТ склала др Э. Смулкова. Яна сцвердзіла, што праблемы, якія выступалі ў з'ездаўскай дыскусіі, з'яўляюцца таксама блізкімі кафедры. Гэта пацвярджае неабходнасць супрацоўніцтва яе з БГКТ.

Кафедра рыхтуе высокакваліфікаваных спецыялістаў па беларусазнаўству. Трэба, каб Галоўнае праўленне прысвяціла ім спецыяльную ўвагу і ангажавала ў большай меры, чым дагэтуль, да дзейнасці на ніве беларускай асветы і культуры, а таксама ў арганізацыйных працах таварыства. Навуковыя працаўнікі і студэнты кафедры могуць перш за ўсё шмат дапамагчы ў зборы фальклору і дыялектаў на Беласточчыне. Неабходна таксама праводзіць сістэматычную высняльную працу сярод вучняў сярэдніх школ аб магчымасцях далейшай адукацыі на кафедры беларускай філалогіі, прывіваць у іх зацікаўленне да беларусазнаўства, заахвочваць да адпаведнай падрыхтоўкі па гуманітарных прадметах, каб на кафедру паступала ўсё больш таленавітай моладзі.



Др Э. Смулкова паведаміла, што кафедра рыхтуе навуковую сесію, прысвечаную 90-ай гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Апрача дакладаў і паведамленняў, прадугледжваецца таксама экспазіцыя выстаўкі беларускага народнага мастацтва і выступленне беларускага харавога калектыву з Гарадка.

У заключэнні свайго выступлення др Э. Смулкова падкрэсліла, што адкрыццё завочнага аддзялення пры кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта з'яўляецца вынікам намаганняў БГКТ і вялікім дасягненнем нашай арганізацыі.

# Новая праграма і курсы для настаўнікаў

(ВЫСТУПЛЕННЕ МГР СТАНІСЛАВА ЯНКОЎСКАГА — ВІЗІТАТАРА МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ І ВЫХАВАННЯ).

У сваім выступленні мгр С. Янкоўскі паінфармаваў з'езд, што калектыў аўтараў па заданню Міністэрства асветы і выхавання апрацаваў новую праграму выкладання беларускай мовы, якая ўлічвае пажаданні і ўвагі настаўнікаў да папярэдняй праграмы. У сучасны



# ТРЫБУНА чытачоў



## ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ

Казімір Матус ужо 17 год працуе ў грамадскай радзе нарадовай у Шымках Беластоцкага павету. Ад 1960 года з'яўляецца сакратаром рады. Добра яго ведаюць жыхары грамады. Ён добразычлівы і непасрэдны. З'яўляецца актыўным арганізатарам мясцовага сельгасгуртка. Ён старшыня рэвізійнай камісіі ў міжгуртковай машыннай базе і ў гмінная спулдзельні сялянскай самапомачы ў Міхалове. З'яўляецца таксама членам надзорчай рады гэтай спулдзельні. За актыўную працу быў выбраны дэлегатам на сёлетні з'езд ВЗГС.

*М. Гогель*

## А ШТО ЧУВАЦЬ НА СМЫЧКОВАЙ?

Смычковая — гэта амаль канец Варшавы. Некаторыя называюць гэту вуліцу «варшаўскай вёскай», сапраўды тут часам і певень заспявае. Аднак гэта вуліца чысценькая, а асабліва гэта кідаецца ў вочы цяпер, увосень.

На гэтай вуліцы стаіць адзін вялікі будынак (Інстытут рускай філалогіі). Тут вучацца і жывуць студэнты рускай, беларускай і ўкраінскай мовы. Некаторыя прывыклі да Смычковай, як да сваёй хаты.

Вясною тут вельмі многа зелені, а кругом рассцілаюцца лугі. Студэнты вельмі любяць гэты свой куток. Калі яны там жывуць, вуліца заўсёды ўпарадкаваная, летам толькі няма каму рабіць тут парадкаў. Усе раз'едуцца дадому, і Смычковая чакае сваіх гаспадароў тры месяцы. За гэты час яна зарасце розным зеллем.

Восенню вуліца ажывае. Як толькі прыедуць студэнты, адразу бяруцца за парадкі. У адну сонечную нядзелю гурток ЗМВ арганізаваў чын. Ініцыятарам гэтага чыну быў Мікола Іванчук, студэнт 5-га курса рускай філалогіі. За некалькі гадзін выгляд вуліцы змяніўся, яна стала «другой вуліцай».

Такія чыны бываюць тут часта. Але на чыны гэтыя прыходзіць не толькі моладзь з ЗМВ, а Міколу Іванчука называюць на Смычковай «бацькам чынаў».

*Павел Гілеўскі*



*Вось як добра, што бацька навучыў мяне касою паслугоўвацца... Часам і ў сталіцы прыдасца.*




## ВОСЕНЬ

Хмары нізка на небе,
Над лесам туман,
Бярозы золатам свецяць,
Восень у вёску прыйшла.
Выйду на лес падзівіцца,
Успомню маладыя гады.
У лесе, пад елкай густою
Сядзеў партызан малады.
Ў ахове стаяў, каб таварышы
Па бою маглі адпачыць.
На другую ноч
у адкос паляцеў
Каля Жэдні цягнік.

*М. Лук'янюк,*
*Белкі*

## АКАДЭМІЯ Ў ЧЫЖАХ

Вечарам 4 лістапада г.г. у грамадскай святліцы ў Чыжах адбылася акадэмія, прысвечаная 55-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Быў прачытаны даклад, а потым вучні мясцовай школы выступілі з вершамі і песнямі, прысвечанымі рэвалюцыі. На заканчэнне дэманстраваўся савецкі кінафільм «Ластачка».

*Я. М.*

## У ГАЙНАЎСКІМ ЛІЦЭІ

У гэтым годзе, як і ў мінулых гадах, у Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася акадэмія, прысвечаная Кастрычніцкай рэвалюцыі. Удзельнічалі ў ёй усе настаўнікі і вучні. Даклад чытаў Збышак Бяленя, а ў мастацкай частцы было многа вершаў і песень, якія гаварылі аб Леніне, рэвалюцыі і шчасці.

*Валя Анішчук*




Мне 17 год. Вучуся ў III класе Медыцынскага ліцэя ў Бельску. Вельмі люблю чытаць беларускія кніжкі і заўсёды чытаю «Ніву». Я вельмі хачу пазнаёміцца з сяброўкамі і сябрамі з іншых вёсак.

Мой адрас:
Nina Owłasiuk, w. Lachy, p-ta Klejniki, pow. Hajnówka.




Дарагое «Сэрцайка»! Мне 17 год і я вучуся ў сярэдняй школе. Два гады таму назад я пазнаёмілася з хлопцам, які мне спадабаўся. Ён вучыўся далёка і мы былі толькі сябрамі. Калі мы сустракаліся, гаварылі пра школу, пра дом і г.д. Але гэты хлапец у гэтым годзе вучыцца ў тым горадзе, дзе і я, толькі ў іншай школе. Мы пачалі часцей сустракацца, і наша сяброўства перайшло ў каханне. Я хаджу з ім ужо другі месяц. Ведаюць аб гэтым мае бацькі, а таксама сябры і сяброўкі. І мне зусім не сорамна, таму што ён вельмі прыгожы і разумны хлапец. Усё было б нядрэнна, каб не псуў справу другі хлапец, які стаў да мяне заляцацца. Я з ім неахвотна гавару і не звяртаю на яго большай увагі, але баюся, каб яго заляцанні не зашкодзілі адносінам з «маім» хлопцам. Не ведаю, што мне цяпер рабіць? Ці выпадае пра ўсё гэта расказаць аднаму з іх? Катораму?

*Гражына з Бельскага павету.*

Гражына! Няма чым пераймацца! Хлопец, які табе не падабаецца, не прымусіць цябе хадзіць з ім. Заляцаецца, бо ты яму падабаешся. Не раю аднак табе сварыцца з ім, ды расказваць яму ўсёй тваёй любоўнай гісторыі таксама не варта. Яго заляцанні прымай, як жарт. Ён тады зразумее, што твае адносіны да яго чыста сяброўскія. «Свайго» хлопца непатрэбнымі рэчамі не турбуй, хіба што хочаш выклікаць зайздрасць.

Жадаю ўсяго найлепшага!

*Сэрцайка*

* * *

Ты сказаў што будзеш усім сваёй дзяўчыне
Сонцам і небам, днём і ночкай цёмнай
Пясочкам жоўтым і рэчкай соннай
Бярозкай белай як кветкі на каліне
І ўсім чаго захоча
І нават сэрцам каторае так голасна стукоча
. . . . . . . . . . .
Ты гаварыў ёй вельмі многа
Так многа вельмі многа
Так што ў канцы не чула ўжо нічога
. . . . . . . . . . .
Была шчаслівай

Калі твой поезд далёка,
Калі загіне ў тумане твой след,
Зноў мая думка шырока,
Душу засыпле, як снег.

Душа за табою будзе ганіці,
І сэрца тваго доўга прасіці,
Каб часам ўспомніла, хаця на хвіліну,
Сваю, дарагую радзіму.

Радзімай я буду з'яўляцца,
Я, дарагі мой,
А я — гэта шчасце,
Шчасце і мары, каторыя сняцца.

Таму не шукай доўгай разлукі,
Калі хоч быць шчаслівым,
Цалуй мае рукі,
Яны многа давалі,
Нічога, нічога за гэта не бралі.

*Ліля Грыгарук*
*Бельск*

## БРАК ІНІЦЫЯТЫВЫ

У Тафілаўцах у канцы вёскі (ад Карыціскаў) на працягу нейкіх 100 метраў зусім няма маставой на вуліцы, хаця дамы стаяць. Бруку тут ніколі не было. І цяжка нават паверыць, што сяляне ў сваіх гаспадарскіх патрэбах ад вякоў нейк абыходзіліся, ну і далей абыходзяцца без яго. Тут мала балота, гразі, ямаў і лёгка нават скруціць карк у гэтым месцы. А штодзённа тут рух, сяляне едуць вазамі, ходзяць. Не верыцца нават.

Чаму тут ніхто не паклапоціцца і не зробіць нейкага парадку і канца гэтаму д'ябальскаму месцу? Сюды толькі навазіць жвіру. Мясцовыя трактарысты згодны навазіць яго. Але хочуць таксама, каб гэту работу нехта ўлічыў і пасля заплаціў ім. Можа і маюць рацыю.

Але чаму самі сяляне вёскі не могуць грамадска навазіць сюды жвіру? Нікому чужому. Сабе. Кожнае глупства рабіць за грошы?

*М. Панфілюк*




ПЫТАННЕ: Пасля смерці гаспадара ў 1957 годзе на гаспадарцы засталася яго жонка, якой было тады 60 год, і яго дарослы жанаты сын. Жылі яны разам, але гаспадарку фактычна вёў сын, бо матка яго была няздольная да працы. Ці сын набыў уласнасць гаспадаркі па аснове новага зямельнага закону, паколькі карыстаўся з гаспадаркі самастойна больш дзесяці год?

АДКАЗ: Паводле закону з 26.XI.1971 аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, той, хто карыстаецца самастойна з зямлі, набывае ўласнасць зямлі на аснове гэтага закону. Аднак у абставінах, прадстаўленых у пытанні, гэтыя ўмовы не споўнены. Не можна лічыць сына за самастойнага ўладальніка ва ўмовах, калі на гаспадарцы знаходзілася яго матка, саўладальніца гаспадаркі, хаця яна фактычна не працавала.

У выпадку, калі былі іншыя наследнікі, якія на гаспадарцы не жылі і не працавалі, яны страцілі свае правы да гаспадаркі, і прэзідыум павятовай рады нарадовай можа прызнаць уласнасць да гаспадаркі маці і сына, з выключэннем іншых наследнікаў, але не можа прызнаць уласнасці толькі сыну.




■ 30.X.72 г. у вёсцы Чаромха Гайнаўскага павету згарэлі дзве стадолы з сельскагаспадарчымі прыладамі. Страты каля 90 000 зл. Пажар узнік у Васіля Барана.

■ 31.X.72 г. у Трашчотках Бельскага павету згарэў стог пшаніцы Міхала Антасюка. Страты каля 4.000 зл. Стог спаліла 6-гадовае дзіця.




*Уладзімір Васіленка, Клепікі.* Прапануеце нам суаўтарства («Мо што няскладна, дык прашу падрыфмаваць»). Даражэнькі сябра, нічога ў нас не атрымаецца, можам так нарыфмаваць, што адрачэцеся ад свайго твора. А хто тады шышкі збіраць будзе? Лепш пішыце прозай.

*Валя Анішчук.* «Калі?» атрымалі. Надрукуем. Жадаем далейшых поспехаў.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Most" (jugosł.), „12 krzeseł" (radz.), „Przygody psa Cywila" (polski), 28.XI.-3.XII.

**Нараўка**
„Orzeł w klatce" (jugosł.), „Oczami przyjaciół" (polski), 29.XI-3.XII.

**Нарва**
„Podróż za jeden uśmiech" (polski), „Jestem niewiernym mężem" (franc.), 29.XI.-3.XII.

**Чыжы**
„Akcja Brutus" (polski), „Narkotyk" (franc.), 29.XI-3.XII.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 29.XI-3.XII.

**Арэшкава**
„Kaszabe" (polski), „Kajtek i siedmiogłowy smok" (NRD), 2—3.XII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Przyjęcie" (rumuński), „Aleksander Newski" (radz.), 29.XI—3.XII.

**Орля**
„Zbrodnia i kara" (radz.), 29.XI—3.XII.

**Райск**
„Nie można żyć we troje" (angiel.) „Prawdzie w oczy" (polski), 29.XI.—3.XII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Zdradzieckie gry miłosne" (czeski), „Czworokąt śmierci" (czeski), „Krzyżacy" (polski), 28.XI.—3.XII.

**Шудзялава**
„Cytadela odpowie" (bułgar.), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 29.XI.—3.XII.

**Янаў**
„Sledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (wł.) 29.XI.—3.XII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Przygody psa Cywila" (polski), „Czekam w Monte Carlo" (polski), „Zaproszona" (franc.) 28.XI.—3.XII.

**Мельнік**
„Miałem 19 lat" (NRD), „Zaproszona" (franc.), 29.XI.—3.XII.

**Мілейчыцы**
„Polonez Ogińskiego" (radz.), „Królewski błąd" (czeski), „Kochany drapieżnik" (rumuński), 28.XI.—3.XII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), 29.XI.—3.XII.

**Новы Двор**
„Oficerowie" (radz.), „Wujaszek Wania" (radz.), 28.XI.—3.XII.




**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.811 T-3

*З латышскага*

## Ідучы насустрач...

Мяне выклікаў начальнік і, трасучы перад маім носам ліст-ком паперы, сказаў:

— Вы толькі палюбуйцеся, што нам пішуць! Ну і людзі! Яны заўсёды на нешта і на некага скардзяцца.

— Зноў абважванне, ці антысанітарны стан сталоўкі? — спытаў я.

— Не, на гэты раз нешта іншае.

Усадзіўшы на нос акуляры, я прачытаў:

«У былым гандлёвым памяшканні ў нашым доме знаходзіцца склад. Ці не лепш было б зрабіць там кафэ?..»

— Справядлівая просьба, — сказаў я, — людзі хочуць культурна бавіць вольны час за кубачкам кавы. Трэба ўважыць іх пажаданне.

У выніку, пасля доўгага і дэталёвага абмеркавання, склад перанеслі, а на яго месцы адкрылі кафэ.

Праз некалькі дзён атрымліваем новую скаргу:

«Некаторыя суб'екты прыносяць у ваша кафэ піва, распіваюць яго, а затым непрыстойна паводзяць сябе ў двары нашага дома...»

— Нічога не зробіш, людзі хочуць піць піва.

У памяшканні былога кафэ мы ўстанавілі піўныя аўтаматы. Але неўзабаве прыйшло новае пісьмо:

«У вашай піўнушцы людзі распіваюць віно, а затым брыдка лаюцца і б'юцца ў нашым двары...»

— Ну, ведаеце, — уздыхнуў начальнік, — чаго яны ад нас яшчэ хочуць?

— Віна, — падказаў я, — людзі хочуць віна!

Замяніць піўныя аўтаматы не бог ведае якая цяжкасць. Замянілі. А людзі ўсё не супакойваліся:

«Цяпер у вашай забягалаўцы нейкія падазроныя тыпы дaліваюць у віно палітуру і дэнатурат, а затым у нашым двары...»

— Ай-я-ёй! — сказалі мы, — людзі падрываюць сваё дарагое здароўе рознымі сурагатамі!..

І... адкрылі па суседству спецыялізаваны гарэлачны магазін.

На наступны ж дзень трывожна зазваніў тэлефон:

— Ратуйце, людцы добрыя! Больш цяпер нельга. Уся падваротня занята выпівохамі, якія...

— Грамадзянін, — пачціва адказаў я, — мы заўсёды ідзём насустрач пажаданням працоўных і робім для іх усё, што ў нашых сілах. Але ваша пытанне не ў нашай кампетэнцыі. Званіце ў міліцыю!

*Міерміліс Стэйга*

# НІЎКА

*Усё людское нам не чужое...*

### ШТО РАБІЦЬ

— Калі рамонт у тваёй кватэры ўжо закончыўся, дык што там робіць рамонтная брыгада?

— Працуе ў лік наступнага года.

### СОРАМ

— Што ў вас ёсць на абед? — спытаў наведвальнік сталоўкі.

— Як вам не сорам, грамадзянін, другі месяц у нас абедаеце, а ніяк не можаце запамятаць, — адказаў афіцыянт.

### Талаваломка

Колькі трохвугольнікаў і квадратаў рознай велічыні ўмяшчае гэтая фігура?

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:

### СТАРАЯ ДЗЕЎКА

— Адна старая дзеўка псуе мне жыццё. Калі я спыняю машыну каля бара, яна адразу бяжыць па пасёлку і крычыць, што я зноў напіўся. Так я здабыў славу горкага п'яніцы. Як мне быць?

— Кожную ноч пакідайце машыну каля яе дома, і няхай людзі гавораць, што ім уздумаецца.

*Чаго ў спорце не бывае!*

### НАВАРАЖЫЛА

Жонка, вярнуўшыся ад знахаркі, гаворыць мужу:

— Ой, мужанёк, мне знахарка такое страшэннае наваражыла!..

— Што ж менавіта?

— Сказала, што неўзабаве стану ўдавою!

Муж хуценька схапіў шапку і выбег з хаты.

— Куды ж ты так пагнаў? — крычыць услед жонка.

— Бягу, каб хутчэй развесціся з табою, — нахаду кінуў муж.

### НЕ ЗІРНУЛА

— Ты звярнула ўвагу на тую брунетку ў трамваі?

— Тую, што з зялёнымі вачамі, у чорным касцюме, з чырвонай сумачкай і ў чырвоных туфлях?

— Ну!

— Падумаць толькі, я на яе нават не зірнула.

### У КРАМЕ

— У вас ёсць штонебудзь для тых, хто вяртаецца з рыбалкі з пустымі рукамі?

— Ёсць. Кансерваваныя ракі.

### ПРЫЧЫНА

— Заўсёды, калі вы ўсміхаецеся, мне хочацца запрасіць вас да сябе..

— Я вам падабаюся?

— Ды не. Я зубны ўрач.

### ЦІ НЕ ГАНЬБА...

— Ці не ганьба вам?! Ужо восьмы раз стаіце ў судзе, — дакараў суддзя падсуднаму.

— Ды вы тут цэлае жыццё сядзіце, і я вам нічога не кажу...

*Перастрахоўшчык.*

### РАСКРЫЛА ТАЯМНІЦУ

Заўсёды, калі малой дзяўчынцы прыносілі гасцінцы, ёй казалі:

— Ад зайчыка... Зайчык перадаў...

Слухала гэта малая, слухала і аднаго разу пытае:

— А што, вялікі ў зайчыка магазін?

*Без слоў.*

### СТОГАДОВЫ ЖЫХАР

Да старога габраўца, які і ў свае сто год яшчэ пасвіў коз і авечак, прыехаў журналіст, каб узяць інтэрв'ю.

— Якое малако ты п'еш, дзядуля? Казінае ці авечае? — адразу запытаўся ён.

— Якое, хлопча, танней, — адказаў стары.

### МУХА

**Хацела мёду зведаць асалоду,**
**А ўлезла ў мёд — не захацела**
**мёду.**

*В. Жуковіч*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Антона Кліма, Тэрэсы Лісоўскай, Рэгіны Быцуль і Марыі Чыквін з Беластока змяшчаем*

## Амурские волны

Плавно Амур свои волны несет,
Ветер сибирский им песню поет.
Тихо шумит над Амуром тайга,
Ходит пенная волна,
Пенная волна плещет,
Величава и вольна.

Там, где багряное солнце встает,
Песню матрос на Амуре поет,
Песня летит над широкой рекой,
Льется песня широко,
Песня широко льется
И несется далеко.

Красоты и силы полны,
Хороши Амура волны.
Серебрятся волны
Серебрятся волны
Славой Родины горды.

Плещут, плещут силы полны,
И стремятся к морю волны.
Серебрятся волны,
Серебрятся волны,
Славой русскою горды.

Красива Амура волна
И вольностью дышит она,
Знает волна — стерегут её покой.
Спокойны реки берега,
Шумит золотая тайга,
И дышит волна ее чудной красотой.

Величав Амур седой.
Мы храним его покой.
Корабли вперёд плывут.
Волны бегут и бегут.

Ты шуми, Амур родной,
Ты шуми седой волной,
В грозном беге прославляй
Наш советский вольный край!

Плавно Амур свои волны несет,
Ветер сибирский им песню поет,
Тихо шумит над Амуром тайга.
Ходит пенная волна,
Пенная волна плещет,
Величава и вольна!

— *Тут грошы, там грошы... А дзе ў гэтым доме соль, чорт яго ведае!*

# Курёзы

### НЕБЯСПЕЧНЫ ЗААПАРК

Узвядзенне незвычайнага заапарка пачата ў Хайдэрабадскім заалагічным садзе. На плошчы звыш 30 акраў размесціцца запаведнік, у якім наведвальнікі змогуць назіраць жыццё дзікіх жывёлін не ў клетках, а на свабодзе. Экскурсіі па заапарку будуць рабіцца ў спецыяльных аўтобусах з трывалага матэрыялу. Там можна будзе ўбачыць рэдкіх прадстаўнікоў жывёльнага свету Індыі: азіяцкага льва і аднарогага насарога, белага тыгра і гаура (буйвала, які жыве ў джунглях).

### АДЗІН ПРАЗ САХАРУ

Англійскі журналіст і пісьменнік Джэфры Мурхауз аб'явіў нядаўна, што ён мае намер у адзіночку перайсці праз Сахару. Яго транспартным сродкам будзе вярблюд.

Маршрут адважнага падарожніка складае 3600 міль і працягваецца ад атлантычнага ўзбярэжжа да Ніла. Адзіным прэцэдэнсам пераходу праз пустыню ў адзіночку з'яўляецца экспедыцыя немца Хорнемана ў канцы мінулага стагоддзя. Аднак яго шлях быў амаль удвая карацейшы. Паводле разлікаў самога Мурхауза, якому прыйдзецца прайсці праз Маўрытанію, Малі, Алжыр, Лівію і Егіпет, падарожжа зойме каля года. Ён возьме з сабой толькі секстант, компас, гадзіннік і невялікую аптэчку.

Адзін з самых складаных этапаў падрыхтоўкі да экспедыцыі заключаўся ў тым, каб навучыцца яздзе на вярблюдзе. Мурхауз браў урокі ў лонданскім заапарку, выкарыстоўваючы вярблюдаў, на якіх звычайна катаюць дзяцей...

Мурхауз мае намер прайсці месячную акліматызацыю ў Маўрытаніі і пачаць падарожжа ў канцы лістапада. «Я абавязкова напішу аб гэтым кнігу, калі застануся жывы», — сказаў ён.

# Між намі

На адну дошку караля і пешку ставяць толькі ў шахматнай гульні.